№3 (307)
2012

# Права на волю

Праваабарончы бюлетэнь


Фота svaboda.org

Узнагароду Алеся БЯЛЯЦКАГА атрымалі Валянцін СТЭФАНОВІЧ і Тацяна РАВЯКА.

## Алесь Бяляцкі – "Грамадзкі лідар году"

Старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі быў прызнаны лаўрэатам узнагароды "Чэмпіёны грамадзянскай супольнасьці-2011" у намінацыі "Грамадзкі лідар году". Пра гэта стала вядома падчас штогадовай цырымоніі ўручэньня прэміі, заснаванай Асамблеяй няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў.

Прэміяй "Чэмпіёны грамадзянскай супольнасьці" адзначалі выбітных прадстаўнікоў і арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці Беларусі ўжо ў трэці раз. У якасьці прадстаўнікоў Алеся Бяляцкага ўзнагароду прыйшлі атрымаць сябры ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч і Тацяна Равяка. Валянцін Стэфановіч падзякаваў арганізатарам узнагароды за салідарнасьць і падтрымку Алеся Бяляцкага і адзначыў, што "нягледзячы на тое, што наш "галоўны лесавік" зараз за кратамі, нягледзячы на моцныя маразы, Вясна ўсё адно прыйдзе".

У намінацыі "Месца году" пераможцай стала Галерэя "Ў". Перамогу ў намінацыі "Новая ініцыятыва" атрымала кампанія "Народны журналіст".

"У базе "Народнага журналіста" цяпер больш за 300 чалавек па ўсёй Беларусі, і ўлада ў некаторых рэгіёнах проста замітусілася. Нашая пераможца першага туру, Валянціна Шалейнікава, знакамітая змагарка за Севастопальскі парк, выйграла адно са змаганьняў – за дзіцячы садок побач з паркам", – распавёў Вінцук Вячорка.

У намінацыі "Рэгістрацыя году" журы адзначыла "Офіс па правах людзей з інваліднасьцю", а ў намінацыі "Адмова году" – "Цэнтр разьвіцьця валанцёрства".

У намінацыі "Кампанія году" журы ўзнагародзіла кампанію па зборы подпісаў супраць прыняцьця закону "Аб некамерцыйных аб'яднаньнях".

"Закон не прыняты, а подпісаў мы сабралі, напэўна, рэкордную колькасьць у гісторыі такіх кампаній – 370 тысячаў чалавек уваходзяць у арганізацыі, якія падпісаліся супраць гэтага закону", – адзначыў юрыст і палітолаг Юрась Чавусаў

У рубрыцы "Рэгіянальная падзея/акцыя году" адзначылі забастоўку супрацоўнікаў ЖКГ у Барысаве. Пераможцам у намінацыі "Крэатыў году" стаў інтэрнэт-рэсурс Prokopovi.ch.

## Еўрапарламент пералічвае ўмовы "размарозкі"

**Еўрапарламент прыняў рэзалюцыю, якая асуджае практыку сьмяротнага пакараньня ў Беларусі і заклікае ўлады ўвесьці мараторый на выкананьне гэтага пакараньня.**

**Еўрапейскія дэпутаты заклікалі беларускі рэжым памілаваць Дзьмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва, асуджаных на сьмерць за тэракт у менскім метро, ды правесьці "поўнае, справядлівае і бесстаронньняе расьследаваньне" выбуху ў метро.**

**Рэзалюцыя асуджае бесперапынны перасьлед праваабаронцаў і прадстаўнікоў дэмакратычнай апазіцыі і перасьлед актывістаў грамадзянскай супольнасьці і незалежных СМІ ў Беларусі па палітычных прычынах і патрабуе безумоўнага і неадкладнага вызваленьня ўсіх палітычных зьняволеных, у тым ліку старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" і віцэ-прэзідэнта FIDH Алеся Бяляцкага, двух былых кандыдатаў у прэзідэнты Мікалая Статкевіча і Андрэя Саньнікава, кіраўнікоў штабоў кандыдатаў ад апазіцыі Паўла Севярынца і Зьмітра Бандарэнкі, а таксама Сяргея Каваленкі, палітычнага зьняволенага, затрыманага па падазрэньні ў парушэньні правілаў хатняга арышту, які знаходзіцца ў працяглай галадоўцы, якая прывяла да крытычнага пагаршэньня яго здароўя і прамой пагрозы ягонаму жыцьцю.**

**"Еўразьвяз павінен працягваць эканамічныя і візавыя санкцыі ды замарожваньне актываў Лукашэнкі і ягоных памагатых, а таксама падтрымліваць патрабаваньне Еўрапарламенту і Сенату ЗША перанесьці чэмпіянат сьвету па хакеі ў 2014 годзе. Гэтыя дзеяньні павінны дапамагчы ў вызваленьні ўсіх палітычных вязьняў і палепшыць стан дэмакратыі ў Беларусі" – сказаў еўрадэпутат Пэтар Шцясны, у мінулым вядомы славацкі хакеіст.**

***Праваабарончыя матэрыялы можна таксама прачытаць на сайтах: www.spring96.org; www.charter97.org; www.baj.by***

# Неадкладна вызваліць...

## Праваабаронцы па ўсім сьвеце працягваюць акцыі салідарнасьці з Алесем Бяляцкім

Ініцыятыва Абсерваторыі па абароне праваабаронцаў, падтрыманая 30-цю сяброўскімі арганізацыямі Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH), ахоплівае ўсё большую колькасьць краінаў і гарадоў. Гэтым разам крэсла віцэ-прэзідэнта FIDH Алеся Бяляцкага пуставала на прэс-канферэнцыі ў Кесон-Сіці (Філіпіны).

У былой сталіцы і самым густанаселеным горадзе на Філіпінах 14 лютага праходзіла прэзентацыя гадавой справаздачы Абсерваторыі пра сітуацыю з праваабаронцамі ў сьвеце. Мерапрыемства было арганізаванае намаганьнямі мясцовых праваабарончых арганізацыяў – "Філіпінскага Альянсу Праваабаронцаў" (Philippine Alliance of Human Rights Advocates – PAHRA), "Апаратыўнай групы па арыштаваных Філіпінаў" (Task Force Detainees of the Philippines – TFDP) і "Абаронцаў правоў чалавека на Філіпінах" (Human Rights Defenders-Pilipinas (HRDP)).



Кесон-Сіці, 14 лютага 2012 году.

На знак асуджэньня глабальных рэпрэсіяў у дачыненьні да праваабаронцаў на прэс-канферэнцыі пуставалі два крэслы – Алеся Бяляцкага, які знаходзіцца ў зьняволеньні з моманту затрыманьня 4 жніўня 2011 году ў Менску, і Тэмагена Тулаві, арыштаванага 13 студзеня 2012 году ва ўласным доме ў Давао.

Трэба адзначыць, што Тэмаген Тулаві займаўся абаронай людзей ад парушэньняў у ходзе ваенных аперацыяў на востраве Сулу і падчас разьні ў муніцыпалітэце Іпіл патрабаваў ажыцьцяўленьня правасуддзя і прыцягненьня вінаватых да адказнасьці за згвалтаваньні жанчын народу Мора. Абвінавачаньні ў меркаваным замаху былі выстаўленыя губернатарам Сулу Абдусакурам Танам. Цяпер Тэмаген Тулаві ўтрымліваецца ў турме гораду Давао.

Намесьнік кіраўніка Аперацыйнай групы па арыштаваных Філіпінаў (Task Force Detainees of the Philippines – TFDP) Рыта Меленсія адзначыла, што такія справы, як справа Алеся Бяляцкага або справа філіпінскага праваабаронцы Тэмагена Тулаві "выяўляюць той самы чыста палітычны характар абвінавачаньня і перасьледу праваабаронцаў".

"Любая апазіцыя рэпрэсіўнаму рэжыму ці ўладзе будзе заклеймаваная як злачынства, у тым ліку – прасоўваньне і абарона правоў чалавека. Гэта мы адчулі падчас дыктатуры Маркаса, – адзначыў Максам дэ Меса, старшыня Філіпінскага Альянсу Праваабаронцаў, сяброўскай арганізацыі FIDH. – Алесь Бяляцкі быў асуджаны за нібыта ўхіленьне ад выплаты падаткаў".

Напрыканцы прэс-канферэнцыі доктар Рэната Мабунга, старшыня "Абаронцаў правоў чалавека на Філіпінах", заклікаў усіх прысутных "стаць абаронцамі правоў чалавека і выступаць за правы чалавека як нашыя агульныя найвышэйшыя каштоўнасьці".

Філіпінскія актывісты грамадзянскай супольнасьці намагаюцца найшырэй распаўсюдзіць інфармацыю з асуджэньнем "крымiналізацыі" праваабаронцаў, выкарыстоўваючы з гэтай мэтай рэсурсы буйнейшых медыякампаніяў, такія як iReport CNN.

Нагадаем, што раней сяброўскія арганізацыі FIDH далучыліся да маштабнай акцыі салідарнасьці з Алесем Бяляцкім падчас прэзентацыі справаздачы Абсерваторыі ў такіх гарадах, як Нью-Йорк, Дакар, Хельсінкі, Мехіка, Кіеў і Ерэван.

Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў – сумесная праграма Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і Сусьветнай арганізацыі супраць катаваньняў (OMCT) – дасьледуе, дакументуе і пашырае інфармацыю пра выпадкі замахаў на асноўныя правы праваабаронцаў, аказваючы падтрымку тым, хто знаходзіцца ў небясьпецы, і садзейнічае ўмацаваньню патэнцыялу міждзяржаўных механізмаў іх абароны.

## Менскі гарадзкі суд адхіліў касацыйную скаргу Валянціна Стэфановіча

**Менскі гарадзкі суд разгледзеў касацыйную скаргу намесьніка старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянціна Стэфановіча на пастанову суда Партызанскага раёну Менску аб спагнаньні падаткаў. Судовая калегія, разгледзеўшы довады праваабаронцы, цалкам пакінула скаргу без задавальненьня.**

**Нагадаем, што 16 сьнежня 2011 году суд Партызанскага раёну Менску вынес рашэньне пра задавальненьне ў поўным аб'ёме зыскавых патрабаваньняў Інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Партызанскага раёну Менску пра спагнаньне з Валянціна Стэфановіча падаходнага падатку ў памеры 54 мільёны 357 тысячаў 370 рублёў. У адпаведнасьці з судовым рашэньнем з праваабаронцы таксама спагнаная сума дзяржаўнай мыты ў памеры 2 мільёны 717 тысячаў 870 рублёў.**

**Праваабаронца В. Стэфановіч перакананы, што гэта палітычная справа ў працяг справы асуджанага Алеся Бяляцкага і зьвязаў яе з агульным ціскам на "Вясну" за праваабарончую дзейнасьць і дапамогу палітвязьням, за маніторынг выбараў і адмену сьмяротнага пакараньня. У гэтым зьвязку праваабаронца згадаў пра сьлед КДБ, паколькі ад самага пачатку справа была ініцыяваная менавіта гэтай службай.**

### Юля ГАРАЧАНКОВА:

# "Я вырашыла прайсьці ўсе інстанцыі..."

***Магіляўчанка Юлія Гарачанкова адзіная з тых нямногіх "шчасьліўчыкаў", якія змаглі, прайшоўшы праз некалькі судовых працэсаў, дамагчыся адмены несправядлівага прысуду. Пасьля "маўклівай акцыі" 6 ліпеня Юлю затрымалі каля Нацыянальнай бібліятэкі ў Менску і ў судзе Першамайскага раёну асудзілі нібыта за нецэнзурную лаянку ў грамадзкім месцы на 5 сутак арышту. У той дзень двое ў цывільным гвалтам зацягнулі яе ў аўтамабіль, калі дзяўчына спрабавала выратаваць з іх рук незнаёмага падлетка.***

***Яна абскардзіла прысуд у Менскім гарадзкім судзе, які падтрымаў рашэньне суда Першамайскага раёну Менску. І толькі пасьля звароту ў Вярхоўны суд, адбыўся яшчэ адзін разгляд гэтай адміністрацыйнай справы, падчас якога суддзя знайшла памылкі ў сьведчаньнях міліцыянераў і цалкам апраўдала дзяўчыну. Яе прыклад яшчэ раз засьведчыў, што нават пры сучасным стане беларускага правасуддзя толькі пасьлядоўная пазіцыя і воля йсьці да канца могуць абараніць чалавека. І хаця большую частку падобных скаргаў асуджаных за акцыі маўклівага пратэсту Вярхоўны суд адхіліў, тым ня меней, неабходна выкарыстоўваць усе магчымасьці, каб абараніць сябе ад беззаконьня, лічыць Ю. Гарачанкова.***

***Яна пагадзілася адказаць на некалькі пытаньняў і падзяліцца сваімі думкамі пасьля перажытай судовай эпапеі.***




Юля ГАРАЧАНКОВА (у цэнтры).

***– Юля! Пасьля таго, як старшыня Вярхоўнага суда Валянцін Сукала 15 сьнежня адмяніў пастановы суда Першамайскага раёну Менску і Менгарсуда, 10 студзеня той жа суд Першамайскага раёну прыйшоў да высновы, што цябе асудзілі незаконна. Такое надараецца нячаста, як ты ўспрыняла гэтае рашэньне?***

– Для мяне гэта было нечаканасьцю. Але калі я ўважліва перачытала пастанову Вярхоўнага суда, дык убачыла, што ў пратаколах было адзначана шмат недакладнасьцяў, напрыклад, несупадзеньне датаў: у пратаколе аб затрыманьні стаіць 6 чэрвеня, хаця насамрэч падзеі мелі месца 6 ліпеня. У дакументах адзначаецца, што сьведкамі былі два міліцыянты, а ў дакументах справы напісана, што гэтыя міліцыянты дапытвалі адзін аднаго! У гэтым студзені, падчас перагляду справы, адвакат зьвярнуў увагу суда на гэтае парушэньне. І суддзя, калі зачытвала выніковую пастанову, гэты факт улічыла.

***– Але як ты, звычайная дзяўчына, хацела дапамагчы маладому хлопцу, нават не задумваючыся аб тым, што можа здарыцца непасрэдна з табою?***

– Сапраўды гэта так і было. Я не адмаўляла гэтага на судзе. Ну, зразумела, я не прыйшла туды мэтанакіравана некага абараняць, але калі ўбачыла, што на маіх вачах адбываецца нешта, што адбывацца не павінна, не змагла стрываць. Большасьць людзей стаяла наводдаль і па-сутнасьці, дапамагчы хлопцу, якога цягнуць невядомыя асобы ў цывільным, не было каму. Ніхто за яго не заступіўся. Відаць, спрацоўвае нейкі інстынкт, асабліва калі чалавек крычыць "Ратуйце! Выкрадаюць!"

***– Гэты прыклад яшчэ раз пацьвярджае праваабарончую выснову, што вельмі важна пры абскарджаньні несправядлівых прысудаў ісьці да канца. Многія гэтага ня робяць – спыняюцца на паўдарозе. А табе ўдалося. Гэта можна патлумачыць настойлівасьцю?***

– Я сапраўды не чакала, што будзе апраўдаўчае рашэньне. Я нават пачала рыхтавацца да наступнага кроку: падаваць скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. Увогуле, вялікую дапамогу ў абскарджаньні прысуду мне аказаў Праваабарончы цэнтр "Вясна". Дзякуючы дапамозе ягоных супрацоўнікаў, я вырашыла прайсьці ўсе інстанцыі, каб потым не наракаць на сябе, што мяне прыніжаюць, а я не магу абараніцца, што мае правы парушаюцца.

***– Чым табе запомніліся тыя 5 сутак, якія давялося правесьці ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсьціна?***

– Шчыра кажучы, было цяжка. Як маральна, так і фізічна. Самыя звычайныя побытавыя рэчы, да якіх прызвычаіўся, там становяцца недасяжнымі. Напрыклад, некалькі першых сутак у нас не было нават сурвэтак. А яшчэ у камерах нізкая якасьць вады, яе нават піць немагчыма, жахлівая антысанітарыя, брудныя матрасы. Дарэчы, добра, што яны былі хаця б такія. Многія распавядаюць, што і матрасаў не бачылі. Людзей у камеры таксама было болей, чым трэба – на 5 ложкаў 8 чалавек. Нехта спаў на лаве ўвогуле без нічога. А яшчэ духата, нягледзячы на разьбітыя шыбы. Цікава, што пасьля арышту многія знаёмыя дзівіліся і запытвалі, як ты ўсё гэта змагла вынесьці. А некаторыя, наадварот, пакідалі на сайтах супрацьлеглыя каментары: "Падумаеш, 5 сутак усяго!".

*У бліжэйшы час Юля Гарачанкова разам з адвакатам будзе праз суд дамагацца кампенсацыі маральнай шкоды, як гэта прадугледжана Грамадзянскім кодэксам Рэспублікі Беларусі. Згодна заканадаўству, падставай для кампенсацыі маральнай шкоды зьяўляецца ў тым ліку і "шкода, якая была нанесеная грамадзяніну ў выніку незаконнага накладаньня адміністрацыйнага спагнаньня ў выглядзе арышту".*

# "Вясна": паўгоду без Алеся Бяляцкага

***Паўгоду Праваабарончы цэнтр "Вясна" працуе без свайго кіраўніка – Алеся Бяляцкага. Праваабаронца быў затрыманы 4 жніўня 2011 году, а 24 лістапада асуджаны да 4,5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці.***

***Ізаляцыя старшыні праваабарончай арганізацыі, сьледчыя дзеяньні, допыты ў якасьці сьведак сябраў арганізацыі, урэшце і сам суд, безумоўна, дадалі клопатаў і трывог супрацоўнікам цэнтру. Аднак на жыцьцядзейнасьці "Вясны" гэта істотным чынам не адбілася, паколькі сябры арганізацыі не паддаліся разгубленасьці і годна працягвалі сваю дзейнасьць.***

***Як працуе "Вясна" сёньня без свайго нязьменнага кіраўніка і натхняльніка Алеся Бяляцкага? Якімі думкамі і спадзяваньнямі жывуць "вясноўцы"? Пра гэта распавялі сябры праваабарончага цэнтру.***



*Намесьнік старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч:*

– З аднаго боку, нашая дзейнасьць за гэты час зьмянілася, з іншага – не зьмянілася. "Вясна", як і раней, працягвае актыўна працаваць на міжнародным узроўні з разнастайнымі структурамі ААН (Камітэтам па правах чалавека, Камітэтам па катаваньнях), структурамі Еўразьвязу і Рады Еўропы, партнёрскімі праваабарончымі арганізацыямі. А зьмянілася таму, што да розных звыклых для нас накірункаў дзейнасьці і тэмаў далучылася пытаньне Алеся Бяляцкага. Мы шмат увагі надавалі менавіта гэтаму пытаньню. У нас быў шэраг сур'ёзных сустрэчаў на розных узроўнях. Напрыклад, падчас апошняй сустрэчы з Еўракамісарам Фюле мы 40 хвілінаў размаўлялі пра сітуацыю ў Беларусі наогул і сітуацыю з Алесем Бяляцкім, у прыватнасьці.

Лічу, што інтэнсіўнасьць нашай працы ніколькі ня зьменшылася, проста дадаўся яшчэ адзін аспект – справа Алеся Бяляцкага. Хаця, безумоўна, мы заўсёды ў зьвязку з гэтай крымінальнай справай кажам агулам пра балючую праблему наяўнасьці палітвязьняў у Беларусі. "Вясна" працягвае сваю працу ў поўным складзе – ні адзін з "вясноўцаў" не сышоў з арганізацыі і не спыніў сваёй праваабарончай актыўнасьці. Гэта датычыць усіх накірункаў дзейнасьці і ўсіх рэгіёнаў, дзе мы прысутнічаем. Думаю, што менавіта гэта і меў на ўвазе Алесь, калі ў судзе казаў: "Жыве Вясна!" і чуў у адказ "Жыве!".

Арышт Алеся яшчэ больш скансалідаваў "вясноўцаў" і паказаў у чарговы раз, што "Вясна" – арганізацыя аднадумцаў, якія сьвядома працуюць у галіне правоў чалавека, разумеючы ўсе пагрозы і выклікі сёньняшняга часу. Я вельмі ганаруся сваімі калегамі і тым, што належу да гэтай супольнасьці.

Асабіста для мяне арышт Алеся быў моцным ударам, але ня быў нечаканым. Зараз мы разьдзеленыя кратамі і турэмнымі мурамі, але мы застаемся калегамі і сябрамі, сувязь нашая зараз – толькі праз ліставаньне. Вядома, цяжка без Алеся, перажываю за яго, за ягонае здароўе, і адначасова захапляюся ягонай мужнасьцю і сілай духу.



*Сябра Рады ПЦ "Вясна" Тацяна Равяка:*

– Для мяне вельмі важна, што пасьля арышту Алеся Бяляцкага.



*Супрацоўніца ПЦ "Вясна" Алена Лапцёнак:*

– Калі гаварыць менавіта пра мой эмацыйны стан, то выказаць словамі такія рэчы даволі цяжка. Мушу прызнацца, што я да апошняга моманту ня верыла ў самую магчымасьць як працяглага арышту Алеся, так і вынясеньня яму такога жорсткага прысуду. І не таму, што веру ў справядлівасьць ці недаацэньвала нашыя ўлады, проста, напэўна, так прасьцей – ня думаць пра кепскае і не чакаць яго. Тым больш, што столькі гадоў "Вясна" існавала без рэгістрацыі і, здавалася б, усе пагрозы яе абміналі: яна толькі дужала і набывала ўсё большы міжнародны аўтарытэт. Нават калі ў папярэднія гады я сама запісвала з Алесем інтэрв'ю і задавала пытаньне кшталту "а ці не баіцеся вы перасьледу?", прадбачыла адказ, што выбар зроблены і "мы за цаной не пастаім", хоць тады гэта, можа, і гучала крыху пафасна.

Вось і зараз мая сьвядомасьць адмаўляецца ўспрымаць падзеі апошняга паўгоду, тым больш, што ўсё, акрамя адсутнасьці нашага кіраўніка, засталося фактычна нязьменным: і нашыя справы, і сябры. У мяне такое ўражаньне, нібыта Алесь проста зьехаў у камандыроўку і хутка вернецца, а лісты, якія ён піша з-за кратаў, прасякнутыя аптымізмам і цікавымі ўспамінамі пра нашае нядаўнае мінулае. Калі знаходжу ў паштовай скрынцы чарговы ліст, падымаецца настрой: прачытаеш, напішаш адказ – вось, нібыта і пагаварылі...



*Супрацоўніца ПЦ "Вясна" Наста Лойка:*

– Пасьля затрыманьня і арышту Алеся Бяляцкага праца нашай грамадзкай прыёмнай не спынялася ні на хвіліну. Па ягоным настаўленьні мы шмат у чым сталі працаваць яшчэ актыўней,больш дынамічна, не зважаючы на ўласны маральны стан і ўзмацненьне зьнешніх пагрозаў.

Мы таксама ўсьведамляем, што паколькі прысуд старшыні "Вясны" прадугледжвае канфіскацыю маёмасьці, існуе пагроза ў будучыні пазбаўленьня нашага офісу ў Менску, але гэта адбудзецца ня так хутка, ня зараз. Сёньня мы працягваем працаваць у ранейшым памяшканьні, і нават у выпадку канфіскацыі маем "запасныя варыянты" і будзем надалей аказваць прававую дапамогу, прымаць і кансультаваць людзей, дапамагаць ім.

# "Правы чалавека выселілі"

***6 лютага каля брамы амбасады Рэспублікі Беларусь у Чэхіі зьявіліся аўтамабілі з мэбляй і лозунгамі "Беларусь: правы чалавека выселілі". Так пачалася акцыя ў падтрымку беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага і Праваабарончага цэнтру "Вясна".***

Шафы, крэслы, сталы, кампутары, лямпы і ўнітаз – усё гэта выгрузілі з аўтамабіляў перад будынкам амбасады Беларусі. Усе прадметы былі аздобленыя плакатамі з лозунгам "Беларусь: правы чалавека выселілі" і "Свабоду Алесю Бяляцкаму". Такім чынам арганізатары акцыі вырашылі адрэагаваць на прысуд Алесю Бяляцкаму і рашэньне суда аб канфіскацыі ягонай маёмасьці, у тым ліку кватэры, дзе месьціцца офіс "Вясны".

"Беларусь намагаецца выселіць правы чалавека з таго моманту, калі на чале дзяржавы стаў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Зьнявольваюцца і высяляюцца і самі абаронцы грамадзкіх правоў і правоў чалавека", – каментуе сімволіку акцыі перад беларускай амбасадай Радка Вэйрыхава з Незалежнага сацыяльна-экалагічнага руху NESEHNUTÍ.

"Я ведаю Алеся Бяляцкага асабіста з часоў, калі праводзіў у Беларусі маніторынг таго, якім чынам уладны рэжым фальсіфікуе ход выбараў і рэферэндума ў 2004 годзе. Я ведаю, што праца Алеся і цэнтру "Вясна" не абмяжоўваецца толькі дапамогай ахвярам палітычнага перасьледу ў Беларусі. Праз свае міжнародныя кантакты яны падтрымліваюць праваабаронцаў у Кіргізстане, Егіпце, Тунісе і іншых краінах. Я не хачу бязьдзейна назіраць за тым, як беларускі рэжым намагаецца прымусіць маўчаць гэтых адважных людзей", – тлумачыць свой удзел у акцыі Мілан Штэфанэц.



Прага, 6 лютага 2012 году.

"Спосаб, якім Аляксандр Лукашэнка абыходзіцца са сваімі апанентамі, ганебны. І сорам для цывілізаванай Эўропы, што яна ня здольная перашкодзіць яму ў гэтым. Перадусім урады і грамадзяне краінаў, у якіх дзесяцігоддзямі панаваў камуністычны рэжым, не павінныя забывацца пра беларускіх праваабаронцаў (а Алесь Бяляцкі – не адзіная ахвяра лукашэнкаўскіх рэпрэсіяў), мы мусім хаця б прыцягваць да гэтага ўвагу і шукаць магчымасьці прыйсці ім на дапамогу", – тлумачыць значэньне міжнароднай падтрымкі Пэтрушка Шустрава, старшыня праўленьня аб'яднаньня "Грамадзянская Беларусь".

# Пакуль Алег Волчак быў за кратамі, зьнік ягоны пашпарт

## Брытанская асацыяцыя адвакатаў заклікае ўлады Беларусі вярнуць пашпарт

Брытанская асацыяцыя адвакатаў-сацыялістаў зьвярнулася да ўладаў Беларусі з патрабаваньнем вярнуць пашпарт праваабаронцу Алегу Волчаку. Зварот падпісаны старшынёй асацыяцыі Ліз Дэвіс і накіраваны прэзідэнту Беларусі, кіраўніку яго адміністрацыі, міністру ўнутраных справаў, генеральнаму пракурору, міністру юстыцыі, старшыні Вярхоўнага суда, а таксама ў пасольства Беларусі ў Вялікабрытаніі.

Нагадаем, былы сьледчы пракуратуры, кіраўнік грамадзкага аб'яднаньня "Прававая дапамога насельніцтву" (Кіеў) Алег Волчак быў затрыманы ў Менску 27 студзеня. Яго абвінавацілі ў дробным хуліганстве і асудзілі на чацьвёра сутак адміністрацыйнага арышту. Як паведаміў Волчак, падчас арышту з яго кватэры зьнік пашпарт. "Падчас затрыманьня ў мяне забралі ў тым ліку і ключы ад кватэры. Таму я падазраю, што супрацоўнікі міліцыі сьпецыяльна забралі мой пашпарт, каб я ня мог езьдзіць на праваабарончыя канферэнцыі. Гэта толькі здагадка, пацьвердзіць яе я не магу. І я дагэтуль ня ведаю, дзе знаходзіцца мой пашпарт", – расказаў праваабаронца.

У сваім звароце брытанская асацыяцыя адвакатаў-сацыялістаў адзначае, што Волчак афіцыйна запрошаны ўзяць удзел у міжнароднай канферэнцыі, якая пройдзе ў Лондане ў другой палове лютага. У адпаведнасьці з пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах кожны чалавек мае права выязджаць з любой краіны, уключаючы сваю ўласную, адзначаюць аўтары ліста.

"Калі беларускія ўлады забралі і ўтрымліваюць пашпарт спадара Волчака, арганізацыя адвакатаў-сацыялістаў ставіць пад пытаньне правамернасьць такіх дзеяньняў. Мы разумеем, што пошук пашпарта спадара Волчака можа быць працяглым працэсам, таму заклікаем беларускія ўлады вярнуць пашпарт у тэрміновым парадку, калі ён знаходзіцца ў іх, ці, калі гэта ня так, выдаць спадару Волчаку новы пашпарт у тэрміновым парадку, каб забясьпечыць яго прыезд на канферэнцыю ў Лондане, дзе яго ўдзел ужо заяўлены", – гаворыцца ў звароце.

# Сьмяротнае пакараньне адбудзецца?

## Канстытуцыйны суд адмовіўся разглядаць зварот Любові Кавалёвай

Маці асуджанага да сьмяротнага пакараньня Уладзіслава Кавалёва атрымала адказ з Канстытуцыйнага суда на свой зварот ад 1 лютага 2012 году. Любоў Кавалёва зьвярталася з просьбай вынесьці рашэньне аб прызнаньні неканстытуцыйным палажэньня Крымінальна-выканаўчага кодэксу РБ, якое не прадугледжвае прыпыненьня выкананьня сьмяротнага пакараньня ў сувязі з падачай і рэгістрацыяй індывідуальнага паведамленьня ў Камітэт па правах чалавека ААН.

У адказе Канстытуцыйнага суда паведамляецца, што ёсьць сьпецыяльна ўпаўнаважаныя органы, якія маюць права звароту ў Канстытуцыйны суд, і толькі па іх зваротах выносіцца заключэньне аб неканстытуцыйнасьці нарматыўна-прававых актаў.

Юрыст-праваабаронца Раман Кісьляк ня згодны з такім адказам Канстытуцыйнага суда. Паводле словаў праваабаронцы, Любоў Кавалёва зьвярталася ў суд з просьбай выносіць не заключэньне, а менавіта рашэньне, і такая практыка існуе. Канстытуцыйны суд па заявах грамадзянаў прымае рашэньне, дзе даецца ацэнка асобным сферам на прадмет іх суадносінаў з Канстытуцыяй альбо міжнародна-прававымі актамі.

Нагадаем, што Любоў Кавалёва накіравала лісты наконт звароту ў Канстытуцыйны суд А. Лукашэнку, у Савет Міністраў, Савет Рэспублікі, у Палату Прадстаўнікоў, а таксама ў Вярхоўны суд.

Беларускі ўрад лічыць непрымальнай скаргу блізкіх асуджанага да сьмяротнага пакараньня Уладзіслава Кавалёва, накіраваную ў Камітэт па правах чалавека ААН і зарэгістраваную 15 сьнежня 2011 году. На думку беларускага ўраду, непрымальнасьць яе выцякае з нявычарпанасьці ўсіх нацыянальных сродкаў абароны, паколькі скарга Кавалёва знаходзіцца на разглядзе ў Вярхоўным судзе ў парадку нагляду. Юрыст-праваабаронца Раман Кісьляк лічыць аргументы ўраду аб нявычарпанасьці ўнутраных сродкаў абароны неабгрунтаванымі. Па яговых словах, зварот са скаргай у парадку нагляду не прызнаецца міжнароднымі органамі ў сферы правоў чалавека ў якасьці прававога сродку ўнутрыдзяржаўнай абароны, паколькі ў гэтым выпадку не ўзбуджаецца прававая працэдура – чалавек зьвяртаецца да службовай асобы.

"Практыка паказвае, што асуджаны да сьмяротнага пакараньня ў Беларусі даведваецца аб тым, што яму адмоўлена ў задавальненьні скаргі ў парадку нагляду і прашэньні аб памілаваньні за некалькі хвілінаў да пакараньня. Відавочна, што няма ніякай рэальнай магчымасьці для сьмяротніка за гэтыя некалькі хвілінаў прадаставіць у Камітэт па правах чалавека скаргу і дачакацца яе рэгістрацыі. Таму патрабаваньне аб вычарпанасьці ўнутраных сродкаў да падачы скаргі ў ААН гучыць як зьдзек," – кажа Раман Кісьляк.

Маці і сястра асуджанага да сьмяротнага пакараньня Уладзіслава Кавалёва накіравалі ў Камітэт па правах чалавека ААН свае аргументы да каментароў ураду Рэспублікі Беларусь. Аспрэчваньне довадаў беларускага ўраду неабходна для прызнаньня скаргі прыймальнай і магчымасьці далейшага яе разгляду па сутнасьці.

# Савет Рэспублікі: артыкул 193-1 "ахоўвае агульнапрынятыя правы чалавека"

Савет Рэспублікі ня бачыць неабходнасьці ініцыяваць скасаваньне артыкулу 193-1 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Інфармацыю пра гэта атрымалі каардынатар кампаніі "Права на веру" Аляксей Шэін і адзін з кіраўнікоў "Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі" (Асамблеі НДА) Сяргей Лісічонак у адказ на свой зварот у заканадаўчы орган.

У лісьце з Савету Рэспублікі за подпісам намесьніка старшыні Пастаяннай камісіі па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве Мароза Л.Ф, сьцьвярджаецца, што "артыкул 193-1 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь разам з іншымі нормамі Закону зьяўляецца прававым сродкам барацьбы са злачынствамі, якія парушаюць канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзянаў, а таксама парадак і бясьпеку ў грамадстве. Паводле нашага меркаваньня, ён ахоўвае агульнапрынятыя правы чалавека і яго асноўныя свабоды і не парушае міжнародных стандартаў у галіне правоў чалавека". А на гэтай падставе Савет Рэспублікі ня бачыць неабходнасьці ініцыяваць скасаваньне артыкулу 193-1 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

Намесьнік старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч ня згодны з сябрамі Савету Рэспублікі: "Канструкцыя артыкулу 193-1 КК РБ супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Міжнародаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах ды іншым абавязальніцтвам Рэспублікі Беларусь, узятым у межах АБСЕ. Артыкул прадугледжвае крымінальную адказнасьць за любую дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Разам з тым, як Канстытуцыя, так і пакт утрымліваюць пералік дапушчальных абмежаваньняў свабоды асацыяцыяў (у інтарэсах грамадскай альбо дзяржаўнай бясьпекі, грамадскага парадку, здароўя грамадзянаў ды інш). Калі б артыкул 193-1 КК забараняў арганізацыі, якія ставяць на мэце прапаганду вайны, гвалту, экстрэмісцкую дзейнасьць і г.д., то такія абмежаваньні былі б дапушчальнымі. Але, паколькі караецца дзейнасьць любых арганізацыяў, такія абмежаваньні парушаюць свабоду асацыяцыяў, гарантаваную Канстытуцыяй і пактам".

Валянцін Стэфановіч нагадаў пра тое, што ў мінулым годзе выйшла Заключэньне Венецыянскай камісіі адносна артыкулу 193-1 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь. У Заключэньні гаворыцца, што артыкул 193-1 парушае Міжнародны пакт аб палітычных і грамадзянскіх правах і зьяўляецца патэнцыйным інструментам для дзяржавы ў стрымліваньні грамадзкіх актывістаў, дае ўладам шырокія паўнамоцтвы ўмешвацца ў фундаментальнае права на свабоду асацыяцыяў, свабоду думкі, перакананьняў і іх выражэньня.

Апроч таго, праваабаронца адзначыў, што розныя прадстаўнікі беларускіх уладаў неаднаразова заяўлялі пра гатовасьць адмяніць артыкул 193-1 КК. Але зараз чамусьці Савет Рэспублікі заняў іншую пазіцыю.

## Мікіта БРОЎКА:

# "Мяне адлічылі з універсітэту"

Хлопца, які быў затрыманы 19 сьнежня 2011 г. і адседзеў 10 сутак, выключылі з Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэту (БДПУ) імя Максіма Танка.

"Пасьля майго затрыманьня і дзесяці сутак на Акрэсьціна ў мяне амаль не было сумневаў – з універсітэту мяне выключаць", – распавёў Мікіта Броўка.

"Падставы так думаць былі больш чым сур'ёзныя – ужо падчас самай першай сустрэчы з адміністрацыяй факультэту ўсім далі зразумець, што тыя, хто не падтрымлівае палітыку дзяржавы, вучыцца тут ня будуць. Гэта былі не пустыя словы: яшчэ да паступленьня я ведаў гісторыю хрысьціянскай дэмакраткі Ганны Антонавай. Яе выключылі з майго факультэту ў 2008 годзе – проста за тое, што яна падала заяўку на правядзеньне пікету ў падтрымку тады яшчэ палітвязьня Аляксандра Казуліна.

Да адлічэньня Ганны Антонавай былі датычныя тагачасны дэкан факультэту беларускай філалогіі і культуры Франц Станіслававіч Шумчык і яго намесьніца па выхаваўчай працы Тацяна Уладзіміраўна Ганчарова-Цынкевіч. Фактычна па палітычных матывах адлічалі студэнтаў і сёньняшні дэкан факультэту беларускай і рускай філалогіі Васіль Дзянісавіч Старычонак, а таксама былы дэкан факультэту беларускай філалогіі і культуры Аляксандр Іванавіч Лугоўскі.

Праславіўся мой факультэт і падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў – намесьніца дэкана па выхаваўчай працы Тацяна Уладзіміраўна Ганчарова-Цынкевіч абяцала ўсім дадатковы выходны дзень у тым выпадку, калі 90 адсоткаў студэнтаў прагаласуе датэрмінова. Але ці то студэнты не паслухаліся, ці то спадарыня Ганчарова-Цынкевіч схлусіла – ніякага дадатковага выходнага дня не было.



Мікіта БРОЎКА.

На наступны дзень пасьля вызваленьня з Акрэсьціна я ў першую чаргу накіраваўся ва ўнiверсітэт. На факультэце мяне прынялі цёпла – у мой бок, на дзіва, не было сказана аніводнага злога слова. У дэканаце зрабілі копію рашэньня суда і папрасілі напісаць тлумачальную запіску. Пасьля гэтага мне паведамілі, што я магу здаваць залікі.

Такое разьвіцьцё падзеяў магло б вельмі зьдзівіць мяне, калі б не адна акалічнасьць. Падчас адсідкі на Акрэсьціна мяне выклікалі на размову да аднаго чалавека. Ён прадставіўся кімсьці накшталт "інспектара па справах моладзі". Доўга распытваў пра акалічнасьці маёй справы, пасьля вызваленьня абяцаў патэлефанаваць. Асаблівую ўвагу акцэнтаваў на тым, што ён патурбуецца, каб ва ўніверсітэце ў мяне не ўзьнікла праблемаў.

Варта адзначыць, што троху раней гэты ж чалавек прысутнічаў у Доме Правасуддзя, дзе 20 сьнежня мы з іншымі затрыманымі чакалі разгляду нашых справаў. Ходзячы па калідоры ў міліцэйскай форме, ён распытваў студэнтаў пра акалічнасьці іх навучаньня – відаць, выбіраў "ахвяру".

І што цікава, затрыманых са мною дзяўчат з майго факультэту выклікалі да прарэктара па выхаваўчай працы, а мне пашчасьціла ўсяго толькі патлумачыць сітуацыю дэкану, які адрэагаваў на ўсё досыць спакойна.

Я пасьпяхова здаў пяць залікаў за чатыры дні. Патрапіць на першы іспыт не пасьпеў, а на другім усё пайшло-паехала. Падчас іспыту ў аўдыторыю завітаў намесьнік дэкана па вучэбнай працы Ф. С. Шумчык, які папрасіў выкладчыцу тэрмінова адлучыцца для размовы. Я атрымаў за экзамен нездавальняючую адзнаку.

Праз пэўны час мне давялося сустрэцца з тым самым чалавекам, які гутарыў са мной падчас адбываньня арышту на Акрэсьціна. Я думаў, што ён прапануе мне падпісаць паперу аб супрацоўніцтве, а ў выпадку адмовы будзе пагражаць адлічэньнем.

Але гэтага не адбылося. Ён доўга гаварыў на розныя тэмы, цікавіўся сітуацыяй з вучобай. Добрае веданьне сітуацыі ў краіне адразу выдала ў ім сьпецслужбіста. Лейтматывам размовы было абмеркаваньне сітуацыі з маім навучаньнем: маўляў, калі будуць нейкія праблемы – тэлефануй, я табе абавязкова дапамагу.

Праз некалькі дзён прыйшоў час трэцяга іспыту. І ў мяне не было сумневаў наконт пасьпяховай здачы. Пра маё затрыманьне і арышт выкладчыца даведалася ледзь не першай, і адмыслова патэлефанавала адной з дзяўчат, з якімі мяне затрымлівалі. Выказала словы падтрымкі, нехта казаў, што нават абяцала "паставіць экзамен аўтаматам".

Але падчас іспыту я пачуў: "Я не магу паставіць…" Ужо потым некалькі чалавек расказвалі, што бачылі яе ва ўніверсітэце заплаканую, але ніхто ня мог даведацца, у чым прычына.

Паводле словаў намесьніка дэкана па вучэбнай працы, у аўторак, 17 студзеня, мяне афіцыйна адлічылі з фармулёўкай "за акадэмічную непасьпяховаць".

*Паводле газеты "Новы час"*

## Студэнтаў выключаюць з ВНУ...

**6 лютага з Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэту (МДЛУ) адлічылі актывістаў "Еўрапейскай Беларусі" Аляксандра Салдаценку, Аляксандра Вялітчанку і Мікіту Каваленку, якія раней былі асуджаныя да адміністрацыйных арыштаў за ўдзел у акцыях салідарнасьці з палітычнымі зьняволенымі ў Беларусі. Аляксандр Салдаценка быў асуджаны на 7 сутак арышту за ўдзел у акцыі 25 кастрычніка 2011 году. Пасьля затрыманьня на акцыі 26 кастрычніка 2011 году Аляксандр Вялітчанка атрымаў 15 сутак арышту, а Мікіта Каваленка – 10 сутак, а 8 студзеня яшчэ 5 сутак арышту за ўдзел у новай акцыі.**

**Актывістку "Маладога фронту" Насту Шулейку адлічылі з Інстытуту журналістыкі БДУ. Пра гэта дзяўчына даведалася якраз на Дзень Сьвятога Валянціна. Насту неаднаразова затрымлівалі за ўдзел у акцыях пратэсту, што і паслужыла прычынаю адлічэньня. Так, пасьля першага затрыманьня за акцыю ў падтрымку праваабаронцы Алеся Бяляцкага 25 лістапада 2011 году, кіраўніцтва інстытуту вынесла ёй вымову. Падчас акцыі 19 сьнежня, прысьвечанай гадавіне трагічных падзеяў на Плошчы Незалежнасьці, Насту затрымалі каля Чырвонага касьцёлу, а назаўтра пакаралі штрафам. Яе таксама затрымлівалі і 31 сьнежня каля Акрэсьціна. Тады яе пакаралі штрафам у памеры 20 базавых велічыняў (700 тысяч рублёў), а Новы Год яна сустрэла ў камеры.**

# Уратуем чалавека разам

Менская мастачка і студэнтка Стася Майстрэнка хворая на саркому лёгкіх. Пасьля паўтарагадовага лекаваньня і некалькіх хіміятэрапіяў у яе зьявіўся шанец на выздараўленьне, прыкладна 10 адсоткаў. Стасі ўсяго толькі 22 гады. Яна, як і многія з нас, любіць жыцьцё, любіць сваю краіну, заўсёды была ў цэнтры падзеяў, аб'езьдзіла мноства музычных і мастацкіх фестываляў. Як кажуць, жыцьцярадасная і лёгкая на ўздым.

Так было. Яшчэ паўтара гады таму. А потым яна раптам пачала кашляць. Месяц, другі, трэці. Абсьледаваньне паказала нездаровае ўтварэньне ў лёгкім. Хіміятэрапія, аперацыя. На гэтым усё ня скончылася. Рак.

У студзені яна павінна была выправіцца ў сьпецыялізаваную клініку ў Ізраілі на абсьледаваньне. Аднак на той час у Стасі паўсталі праблемы з сэрцам і дактары забаранілі пералёт. Гэта можна зрабіць зараз, каб не праблемы з аплатай. Само абсьледаваньне каштуе каля 5 тысяч даляраў. Якім будзе лячэньне, а значыць, і яго кошт, пакуль невядома. Бацькі Стасі дзеля гэтага гатовыя прадаць дачу, машыну, кватэру – каб сабраць патрэбную суму.



Беларусаў заўсёды вылучала добрая якасьць – вырашаць праблемы талакой. Можна паспрабаваць дапамагчы захаваць жыцьцё маладой дзяўчыне і ў гэтай сітуацыі. Невялікая пасільная дапамога дзесяці, сотні, тысячы чалавек – гэта адзін вялікі шанец для адной маладой мастачкі. Дзеля гэтага ў "Беларусбанку" на імя Стасі адкрытыя дабрачынныя рахункі.

**Дабрачынныя рахункі адкрытыя ў філіяле №511 "Беларусбанка"** –
г. Менск, вул. Даўгабродзкая, 1;
УНП 100349858; МФА 153001815:
– **Беларускія рублі** – транзітны рахунак: №3819382103561 на дабрачынны рахунак №000012 у аддзяленьні № 511/234;
– **Даляры ЗША** – транзітны рахунак: №3819382104993 на дабрачынны рахунак №000039 у аддзяленьні № 511/234;
– **Еўра** – транзітны рахунак: №3819382104993 на дабрачынны рахунак №000007 у аддзяленні №511/234;
– **Расійскія рублі** – транзітны рахунак: №3819382104993 на дабрачынны рахунак №000010 у аддзяленьні №511/234.

Прызначэньне плацяжу: Дабрачынны ўзнос на лячэньне *Майстрэнка Анастасіі* на дабрачынны рахунак *Майстрэнка Анатоля Іванавіча* ў аддзяленьні 511/234 ААТ "ААБ Беларусбанк".

Можна таксама пералічыць электронныя грошы на сайце www.sobiraemvmeste.ru/fundraisers/138001. Запрашаем да ўдзелу і ВАС! **Разам у нас абавязкова атрымаецца!**

# Правы ва ўсіх роўныя

## У Берасьці абмеркавалі механізмы абароны правоў людзей з абмежаванымі магчымасьцямі

Прадстаўнікі Офісу па правах людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасьцямі, якія ладзілі інфармацыйны тур па буйных гарадах Беларусі, 1 лютага сустрэліся з грамадзкасьцю Берасьця.

Як паведаміў Сяргей Драздоўскі, каардынатар Офісу па правах людзей з інваліднасьцю, такія інфармацыйныя дні маюць на мэце інфармаваньне грамадзянаў Беларусі пра механізмы абароны правоў людзей з абмежаванымі магчымасьцямі і сутнасьць міжнародных прававых актаў у гэтым накірунку. У прыватнасьці, размова ідзе пра Канвенцыю аб правах інвалідаў, ухваленую Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў.

Падчас такіх сустрэчаў, якія прайшлі на працягу лютага ва


Сяргей ДРАЗДОЎСКІ.

ўсіх абласных цэнтрах Беларусі, прадстаўнікі Офісу таксама дэманстравалі прыклады арганізацыі кампаніяў і праектаў, скіраваных на абарону правоў людзей з інваліднасьцю. Акрамя таго, у часе інфармацыйнага туру працавала бясплатная юрыдычная кансультацыя для інвалідаў і распаўсюджвалася літаратура, якая дазволіць павысіць прававую дасьведчанасьць людзей, што маюць абмежаваныя фізічныя магчымасьці.

Варта адзначыць, што на падобныя сустрэчы арганізатары запрашаюць ня толькі інвалідаў, але і прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў, якія шчыльна працуюць з гэтай катэгорыяй грамадзянаў, чыноўнікаў органаў дзяржаўнага кіраваньня, журналістаў, выкладчыкаў, супрацоўнікаў установаў адукацыі, аховы здароўя і праваахоўных структураў.

"Права на волю". Праваабарончы бюлетэнь. Выходзіць два разы на месяц.
Наклад 299 асобнікаў. Пры передруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.